*«Я лёгка адмаўляюся ад аўтарства на карысць свабоды».*

**Невядомая аўтарка**

1. ПАЗІЦЫЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА ПЭНА АДНОСНА СУДОВАГА ПРАЦЭСА І РАШЭННЯ АБ ЛІКВІДАЦЫІ
2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА
3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ
4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ
5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ
7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПАЗІЦЫЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА ПЭНА АДНОСНА СУДОВАГА ПРАЦЭСА І РАШЭННЯ АБ ЛІКВІДАЦЫІ




**9 жніўня Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Беларускі ПЭН-цэнтр» ліквідаванае рашэннем Вярхоўнага суда, а менавіта суддзёй Сакалаоўскай Г.М., прадстаўніком Мінюста Печкуровым А.У. і прадстаўніцай Генеральнай пракуратуры Кавальчук І.А.**

**Рада Беларуская ПЭН-цэнтра займае наступную пазіцыю з гэтай нагоды:**

**«Мы чуем з дзяржаўных СМІ наўпрост сфармуляваныя пагрозы «*пусціць пад нож*» тых, хто супраць; адкрыта артыкуляваную пазіцыю «*часам не да законаў*»; і без суду і следства агучаныя ў бок 185 недзяржаўных арганізацый абвінавачванні ў дэструктыўнасці іх структур, «*якія ўяўляюць сабой патэнцыйную пагрозу нацыянальнай бяспецы*».**

**Гэта ўсё адкрыта сведчыць пра наяўнасць палітычнай замовы зверху на «*зачыстку*» грамадзянскага сектара, што ў сваю чаргу робіць пазоўнікаў і суддзяў выканаўцамі гэтай замовы. А наша, так сказаць, «*віна*» заключаецца ў нашай нязгодзе з рэпрэсіямі, з гвалтам, у адстойванні свабоды слова і ідэалаў гуманізму. І калі ў гэтым наша віна – нам не сорамна. Мы ганарымся сваёй працай, нашымі сябрамі, партнёрамі, валанцёрамі.»**

# 2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Міхаіла Кляпца, спевака і актора, 9 жніўня затрымалі каля крамы, у яго дома адбыўся ператрус – забралі ўсе грошы, астатнія рэчы пакінулі, а самаго Міхаіла асудзілі на 15 сутак за «непадпарадкаванне» міліцыі.**



**Дзмітрыя Куксу, артыста ансамбля «Харошкі», затрымалі пасярод вуліцы, пасля правялі ў яго дома перatrус і арыштавалі на 15 сутак.**



**Алега Дзьячкова, экскурсавода і старшыню магілёўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы, за рэпост з «Белсата» (унесенага ўладамі ў спіс «экстрэмістаў») асудзілі на 15 содняў і забралі тэхніку.**



**Андрэй Пятроўскі, настаўнік гісторыі са Смаргоні, які ў сакавіку на ўроку расказаў пра нацыянальны сцяг, спачатку быў звольнены, а пасля на яго завялі крымінальную справу – ч.1 арт.367 КК (паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь).**

**Кацярына Ваданосава** – музыка, паэтка, тэлевядоўца – вымушаная была пакінуць Беларусь разам з сям’ёй.








Газета «**Новы час**» спыняе выхад на паперы: друкарні адмаўляюцца супрацоўнічаць з рэдакцыяй. Пасля сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў 2020 году шэраг незалежных друкаваных выданняў сутыкнуўся з праблемамі – ім адмаўлялі ў паслугах друкарні, а «Белпошта» выключала іх з падпісных каталогаў.



**Таццяна Вадалажская** 14 жніўня выйшла на волю пасля 10-суткавага арышту на Акрэсціна. Яна застаецца ў статусе падазраванай па арт. 342 КК (арганізацыя або ўдзел у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак).



# 3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Па стане на 12 жніўня 2021 года ў Беларусі**
**631 асоба прызнаная палітвязнямі.**
**Як мінімум 40 палітвязняў належаць да дзеячаў культуры.**



**Марына Шыбко, жонка зняволенага сябра ПЭНа Аляксандра Фядуты расказала апошнія навіны ад мужа. Вядомы паліттэхнолаг і філолаг ужо 4 месяцы знаходзіцца ў турме, па абвінавачанні ў «змове» супраць дзяржаўнага ладу. Утрыманне Фядуты пад вартай падоўжылі да 12 кастрычніка, але ён з турмы піша, што збіраецца сустрэць там і дзень нараджэння, і Новы год. Аднавілася магчымасць замаўляць кнігі. Ён шмат чытае, “падсаджвае” на кнігі сукамернікаў, яны ладзяць калектыўныя абмеркаванні. Але Фядута схуднеў, абвастрыліся некаторыя хваробы.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Глеб Лабадзенка – журналіст, паэт, руплівец беларускай мовы, гісторыі і культуры, які ў сярэдзіне ліпеня як вядоўца ток-шоў на тэлеканале «Белсат» перажыўператрус, а следам атрымаў прадпісанне аб спыненні дзейнасці ўстановы «Мова Нанова», стварыў музей пад Мінскам і вяртае з нібыту аўтэнтычны Мінск.**





**Naviband і Вольны хор разам выканалі кампазіцыю «Пад дубам». Падтрымаць музыкаў можна па спасылцы.**

**На гадавіну падзеяў, што адбыліся ў Беларусі ў жніўні 2020 году, прэзентаваны кліп на песню Лявона Вольскага «Палон», у якім узялі ўдзел палітзняволеныя, іх блізкія, а таксама музыкі, акторы, мастакі – людзі, якім асабліва адгукаюцца словы гэтай песні.**






**Новы выпуск праграмы «Пока свободны» прыехаў у Магілёў, дзе вядоўца Алесь Залескі размаўляе з музыкам Ромам Жыгаровым і мастачкай Крысцінай Башарымавай пра культурные жыццё ў Магілёве і тое, ці засталося яно ўвогуле.**




**9 жніўня, у дзень народзінаў вялікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі з усёй Беларусі прыязджалі ўскласці кветкі на магілу і да помніка.**

**Анлайнавы канцэрт Вольнага хора да гадавіны падзеяў 9 жніўня.**

**Супольнасць тэатральных дзеячаў Беларусі аб'ядноўваецца для выжывання ва ўмовах забароны на прафесію і шукае партнёраў.**






**Сакратарыят Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» пратэстуе супраць ліквідацыі Беларускага ПЭН-цэнтра, жорсткага парушэння правоў і свабод беларускіх літаратараў, усіх грамадзянаў Беларусі.**

**Абвешчаны поўны спіс дзясятага юбілейнага сезону прэміі імя Ежы Гедройца.**






«**Галасы Беларусі – 2020**» – у бібліятэцы Свабоды **выйшла кніга**, якая ў фармаце шматгалосся распавядае пра беспрэцэдэнтны ў гісторыі Беларусі 2020 год.

**Youtube-канал грамадзкай кампаніі «Годна» запусціў серыю перадач пад назвай «Гоман» – гэта бясплатны онлайн-курс для вывучэння беларускай мовы. Вядоўцы шоў – музыка Андрусь Такінданг і пісьменнік Аляксей Шэін.**




**Малюнкі Наталлі Гарлуковіч**



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Радыё Свабода прапрасіла некалькі беларускіх аўтараў і аўтарак адказаць на пытанне, якім чынам падзеі апошняга году паўплывалі на іх а разуменне Беларусі і/або іх творчасць.**



**Дар’я Бялькевіч, паэтка:**
***«Падзеі апошняга года паказалі, што мы занадта доўга займаліся толькі асабістымі справамі, таму цяпер вымушаныя займацца выключна справамі сваёй краіны і справамі тых людзей, якія аказаліся закладнікамі (ва ўсіх сэнсах) сітуацыі».***



**Святлана Курс (Ева Вежнавец), пісьменніца, журналістка:**
***«Нашыя мірныя пратэсты былі мірныя, бо кожны беларус свядома ці несвядома адчувае, як на нас ляжыць цяжкая лапа Расеі. Раней гэтая лапа ляжала на палове Еўропы і палове Азіі, а цяпер мы засталіся пад ёю адны, і ціск на нас моцны. Калі мы пачнем быць немірнымі, нас размажуць па мапе».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




Анталогію «Адзін год Беларусі» прэзентавалі ў Швецыі. Выданне суправаджаецца публікацыямі ў шведскіх медыя: інтэрв'ю з Вольгай Шпарагай, Ганнай Комар, Крысцінай Бандурынай і інш.




У Таліне 9 жніўня правялі крэатыўную акцыю салідарнасці: у горадзе на кожнага палітвязня было выстаўлена па пустым крэсле.

Еўрапейская федэрацыя журналістаў, Еўрапейская асацыяцыя літаратурных перакладчыкаў і Еўрапейская пісьменніцкая рада выказваюцца ў падтрымку дэмакратычнага руху ў Беларусі і заклікаюць міністраў культуры іншых краін аказаць падтрымку арганізацыям і прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці, якія рызыкуюць сабой дзеля свабоды слова ў Беларусі.


Mogens Blicher Bjerregård


Shaun Whiteside


Nina George




**Салідарнасць з Беларускім ПЭНам выказваюць шэраг арганізацый:**
**Міжнародны ПЭН, ПЭН Амерыка, Шведскі ПЭН, Украінскі ПЭН, Польскі ПЭН, Нью-Ёркскі літаратурны фестываль, Нарвежскі ПЭН, Англійскі ПЭН і інш.**





**Беларуская дыяспара Даніі арганізавала ў Капенгагене выставу пратэставага мастацтва пад назвай «Смеласць і супраціў у Беларусі».**



**У цэнтры Кіева адкрылася фотавыстава «Год супраціву» пра беларускі пратэст.**



**Польскі «Хор Чароўніц» выканаў песню па-беларуску, прысвечаную паўстанню беларускіх жанчын у 2020 годзе.**
**«*Нас такіх стаяць мільёны, страх нам болей невядомы!*»**



# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У жніўні 9 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Алесь Пушкін, мастак (6 жніўня); Пятро Марчанка, музыка (16 жніўня), Сяргей Ціханоўскі, блогер (18 жніўня); Анатоль Хіневіч, праграміст і бард (19 жніўня); Арцём Такарчук, архітэктар (20 жніўня); Сяргей Волкаў, акцёр (21 жніўня); Мікалай Дзядок, блогер і літаратар, грамадскі актывіст (23 жніўня); Ала Шарко, менеджарка культуры, праграмная дырэктарка Прэс-клуба (24 жніўня) і Ігнат Сідорчык, рэжысёр, акцёр і паэт (25 жніўня).**

**Адрасы, на якія ім можна накіроўваць лісты, – па спасылцы.**

